# Аб усім патроху.

## Налёт вераб'ёў на Чылі.

У 1916 годзе прыехаў на адным з параходаў да Вальпэрайзо адзін італьянскі эмігрант, які прывёз з сабою ў клетцы 20 пар вераб'ёў з надзеяй прадаць іх аматарам птушак у Чылі, дзе да таго часу вераб'ёў ня было.

Аднак, чылійская адміністрацыя загадала заплаціць эмігранту вялікі мытны збор. Тады раззлаваны італьянскі эмігрант адчыніў клетку і выпусьціў вераб'ёў на волю.

Вынік быў нечаканы. Вераб'ём так спадабаўся клімат паўднёвай Чылі і столькі яны знайшлі там ежы, што праз некалькі гадоў цэлыя хмары іх запоўнілі палі, робячы вялікую шкоду для пасеваў і выціскаючы ўсё далей на поўдзень мясцовых птушак: шэрсак, дзюка, шынсоль і жыльгуэро.

Цяпер урад Чылі вымушан ужыць пэўныя мерапрыемствы супроць вераб'ёў, якія сталі сапраўднай пагрозай для Чылі.

## Дарога на стрэхах.

Амаль ва ўсіх буйных гарадох Захаду зямля для пабудовы дамоў каштуе вельмі дорага. А таму там пачынаюць будаваць дамы як найвышэйшыя. Недахват плошчы на зямлі прымушае скарыстоўваць вольную плошчу на стрэхах.



Рэстараны, кіно, каткі і купальні робяцца на стрэхах. У італьянскім горадзе Турыне ўмудрыліся пралажыць на стрэхах аўтамабільную дарогу.

Няма чаго й казаць, што езьдзіць па такой дарозе ня зусім небясьпечна. Асабліва на заваротах, дзе лёгка зьбіць барьер і зваліцца на галовы праходзячых людзей.

## Сем коркаў.





Вазьмеце 7 коркаў аднальковай велічыні і расстаўце іх на стале, як паказана на малюнку: вакол аднаго 6 астатніх. Цяпер захапеце ўсе 7 коркаў пальцамі і асьцярожна перанясеце іх на паверхню вады ў талерку. Потым асьцярожна аднімеце руку, і вы ўгледзіце, што коркі не разыдуцца, а будуць плаваць на паверхні вады ўсе разам. Як па вашаму, чаму гэта так здарылася?

*(Працяг гл. на 3 стар. вокладкі).*

## ЗЬМЕСТ.



Рэдколегія: **БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., СЬЦЯПАНАЎ Х., ЯКІМОВІЧ А.**

Адказны рэдактар **А. ПЯКАРЧЫК.**

*Год выданьня 4-ты.* Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!



**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, Орган ЦКЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

№ 23 СЬНЕЖАНЬ 1928 г.

# ШТО МНЕ ДАЎ „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“.

**Я „Беларускі Піонэр“ чытаю з першых яго нумароў. Шмат чаго за свой яшчэ малы век ён перадаў нам, піонэрам. Шмат у ім было цікавага! Тут табе і цікавыя апавяданьні, вершы, казкі, напісаныя самімі вучнямі і піонэрамі. Шмат я іх вывучыў напамяць!**

**Тут і загадкі, і галаваломкі, і рэбусы, і шарады, над якімі я праседжваў не адзін вольны вечар.**

**Тут зьмешчаны артыкулы па сельскай гаспадарцы і пра жыцьцё гораду, і жыцьцё нашых замежных таварышоў—піонэраў, і пра жыцьцё народаў СССР,—па апошніх артыкулах можна вывучаць географію. Тут і насьцен-газэты, і гульні розныя, у якія мы гуляем у зьвеньнях і атрадах.**

**Я чытаю „Б. П.“ уважліва спачатку да канца. Я чакаю свайго любімага „піонэрчыка“ з вялікім нецярпеньнем. Я чытаю шмат розных часопісяй, але ні адна гэтак ня цікавіць мяне, як „Беларускі Піонэр“. Часопісь „Беларускі Піонэр“—САМАЯ ЛЕПШАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ ПІОНЭРАЎ І ВУЧНЯЎ. Асабліва я вітаю новы аддзел „У дапамогу юнаму натуралісту“. Наша 6-ая кляса вывучае тых шкоднікаў і сяброў чалавека, аб якіх піша „Б. П.“.**

**Пры дапамозе „Б. П.“ я навучыўся пісаць у газэты і часопісі. „Б. П.“—ЛЕПШЫ СЯБАР УСЯКАГА ПІОНЭРА І ВУЧНЯ. Піонэры! Вучні! Выпісвайце і пашырайце сваю родную часопісь „Беларускі Піонэр“. „Беларускі Піонэр“ паможа ўсякаму піонэру і школьніку ў іх працы.**

**ПЯТРУСЬ ШКАДАРЭВІЧ.**

*Капыль, Менскай акругі.*

---

**Піонэры і вучні! Выбірайце ўпаўнаважаных у атрадах і ў школьных групах, якія будуць пашыраць сваю часопісь, сачыць за выпіскай яе і дастаўкай!**




*Нарыс* **Л. Розэмблюма.**

*Малюнкі* **Ізмайлова.**

**1. Міхась пашоў у партызаны.**

Сымон Чыж нізка схіліўся над сталом. Яго шырокія плечы накрылі стол, нібы крыльлі вялізнай птушкі, а вялікія жорсткія пальцы нэрвова абводзілі мудроныя ўзоры чарнільных плям. Сымон гаварыў і па яго маладым твары прабягалі жылкі хваляваньня.

— Так, усім нам вельмі хочацца, несьцярпіма хочацца апынуцца ў краіне саветаў...

Міхась Кухарчык не паціскаў плячыма. Яго пальцы ня цікавіліся ўзорамі плям на стале. Міхась слухаў зусім спакойна, нібы Сымон апавядаў аб яго учарашняй вячэры. Але ў Міхася былі вочы! Гэтыя рухлівыя мышаняты шпарка вярцеліся хвосьцікамі-зрэнкамі і ні то песьцілі, ні то дрэпалі шырокія плечы Сымона.

— Не, мы ня тое задумалі,—Сымон схіліўся яшчэ ніжэй.—Уцякаць можна, і хоць сёньня ўначы я магу пераправіць усіх нашых хлопцаў у Савецкую Расію. Але хіба-ж сапраўдныя бальшавікі ўцякалі? Не, Міхаська, так нельга. Трэба змагацца, трэба падняць паўстаньне...

Цяжка было зразумець—гэта прапанова, ці пытаньне. Хутчэй, гэта было чаканьне дапамогі, парады, нецярплівае чаканьне падтрыманьня з боку Міхаські. Але Міхаська маўчаў, толькі шэрыя мышаняты з-пад брывей узмахнулі хвосьцікамі і ўрэзаліся ў пэрлямутравы гузік на Сымонавай гімнасьцёрцы.

— Вёска гудзіць, Міхаська! Што робіцца там,—проста жах. Учора Віцька Пракопчык прышоў з вёскі, апавядаў і нібы рэзаў словамі сэрца. Зразумей, Міхаська, разьдзяюць дагала і лупцуюць. Розгамі лупцуюць, ліха іх матары. Столпішча ведаеш? Дык там, у гэтай бядняцкай вёсцы польскія легіянэры забралі коняй, кароў, сьвіней... Нават гусей і тых не пакінулі. Што-ж гэта такое, Міхаська? Вёскі паляць, сялян рабуюць. Душаць! Міхаська! Ты разумееш: лю-ю-дзей душа-ць...

І Сымон закрыў вочы рукамі.

„Паляць, душаць“... Ці разумее гэта ён, Міхаська? І Міхаська ўспомніў: ён быў яшчэ тады малым, у падраным кажушку і вялізнай бацькаўскай шапцы. Бацька ўзяў яго з сабою, калі пашоў на ўтрамбоўку шашы. Міхаська помніць, як крахцелі каменьні, калі тоўстая калода з сілай стукала аб шаршавую паласу шэрага каменьня.

— Крак! крак! крак!—скрыгаталі каменьні. І здавалася тады Міхаську, што гэтыя каменьні наўмысьля ўходзяць уніз, у жоўты пясок, каб захавацца ад цяжкіх удараў бацькаўскай калоды.

— Крак! крак! крак!—штосьці кажа Міхаську Сымон Чыж. Але ня чуе Міхаська сымонавых слоў. Ён бачыць толькі чалавечыя галовы, шмат галоў, і ўсе яны разам крэхчуць:

— Крак! крак! крак!

— Шашу трамбуюць,—сказаў голасна Міхаська. І дадаў:

— Калі ўцячэм — не па-бальшавіцку будзе.

Чыж павольна падняў галаву. Яго плечы вялізнымі крыльлямі выцягнуліся перад Міхасём.

— Нельга ўцякаць, Міхаська. Уцякаць, кажу, нельга. Трэба тут... Ужо гудзіць вёска... Трэба арганізаваць... згуртаваць... ўдарыць...

Міхаську здалося, што ўзмахнуў Чыж цяжкай рукой і ўдарыў...

І Міхаська пашоў партызаніць.

**2. Зьвінелі завываючы кулі.**

Ня Чыж з'агітаваў Міхаську. Гэты сын утрамбоўшчыка сам ведаў, што трэба рабіць. Але задуменны, сухарлявы падросток ня любіў перашкаджаць, калі хто-небудзь гаварыў. Ён слухаў Сымона і перакладаў яго простыя словы на мову вобразаў, маляваў карціну, параўноўваў падзеі з бачанымі раней, у раньнім дзяцінстве. Вось, калі-б усё гэта расказаць вершамі! Цішком ад таварышоў, пісаў Міхаська вершы. Але мала пісаў—часу ня было. Як толькі вышлі немцы з Беларусі, як толькі над домам спраўніка закрасавала новая шыльда: „Слуцкі павятовы рэўком", пачаліся для Міхаські гарачыя дні, дні, калі ўсё наўкольнае жыццё ўяўлялася, як бурныя прыгожыя вершы.

Міхаська стаў комсамольцам. Яго не ўцягвалі, не агітавалі. Ён сам стаў комсамольцам і стварыў комсамол у Слуцку. Разам з другімі першымі комсамольцамі Слуцку хадзіў ён рэквізаваць дом для комсамольскага клюбу, разам з імі сканапачваў падмосткі для сцэны, разам з імі хадзіў цёмнымі начамі па крывых вулічках гораду, нёс караульную службу. А калі надышлі на Слуцак бела-польскія легіёны, стаў Міхаська Кухарчык чырвонаармейцам рабочага палка.

Гэта быў памятны дзень для Слуцка. Кінулі слуцкія шаўцы свае малаткі, краўцы ўваткнулі іголкі ў сьцены, грузчыкі выпраглі коняй—усе пашлі ў рабочы полк. Комсамольцы заканчвалі сваю апошнюю „цывільную" работу,—яны расклейвалі адозвы камітэту, надрукаваныя на шэрай абёртачнай паперы.

— Рабоча-сялянская моладзь, слухай!— крычала адозва з усіх платоў і тэлеграфных слупоў.

І моладзь слухала:

**„Жахі крывавага мінулага набліжаюцца зноў. Падштурхнутыя сусьветнай буржуазіяй, польскія паны перайшлі ў наступленьне, зноў пагражаюць заняволіць змучаных рабочых і сялян Беларусі.**

**Быць ці ня быць маладой савецкай рэспубліцы Беларусі?—гэтае балючае пытаньне вырашаецца на полі барацьбы.**

**Рабочая і сялянская моладзь! Прыпамятай полымя пажару, плач бязьвінных дзяцей, што кідаліся ў агонь, енкі гаротных матак, крыкі згвалтаваных жанчын. Памятай,—няшчасьце і забойства нясе табе польская шляхта.**

**Вольнай працы пагражаюць жахі чорнай рэакцыі. Рабоча-сялянская моладзь зноў будзе загнана ў падпольле. Не на вольнае жыццё, а на пакуты будзе яна асуджана. Цяжкае будзе ярмо, нявыносны будзе ўціск.**

**Не дапусьці да гэтага! Ідзі туды, дзе сумленна змагаюцца і паміраюць твае старэйшыя браты, дзе за панаваньне рэволюцыі, за вольнае шчасьлівае жыццё льлецца кроў лепшых сыноў рабочых і сялян.**

**Ідзі туды, каб не дапусьціць больш польскай шляхты ў вольную Беларусь!**

**Абараняючы зямлю, абараняй вольную працу!**

**Рабоча-сялянская моладзь, на фронт!**

**Слава адважным — ганьба баязьліўцам!**

*Слуцкі павятовы камітэт КСМ.*

— Памятай, — няшчасьце і забойства нясе польская шляхта!

Гэта добра запамятаў Міхаська Кухарчык. Запамяталі гэта і сотні другіх падросткаў і юнакоў. Вялікі атрад, добра арганізаваны, даў Слуцкі комсамол Чырвонай арміі.

Слуцкая буржуазія і ўсе цёмныя сілы гораду добра ведалі гэты атрад. Атраднікі адбіралі заложнікаў, арыштоўвалі западазроных у контр-рэволюцыі, праводзілі аблавы на дэзэртыраў. А потым выходзілі яны на шашу і на другія дарогі, далёка ад гораду, сачылі і слухалі: ці ня ідуць белыя.

І аднойчы пачулі: ідуць. Ляскалі затворы, трашчалі ўдарнікі аб капсулі патронаў і зьвінелі завываючы кулі. Кухарчык таксама ляскаў затворам і пасылаў у няведамую даль свае зьвінючыя кулі.

А ў хуткім часе пачулі чырвонаармейцы: зноў ідуць. Але ідуць з-заду, ужо з гораду. Легіянэры абышлі наўкола, прарвалі заставы і цяпер ударылі ў тыл. Слуцак заняты, трэба прарывацца да сваіх. Але ня ўсім удалося прарвацца. Пахавалі яны свае вінтоўкі і пашлі „простымі абываталямі“ ў палаючы ад пажару горад.

І тады вось стаў Чыж ня Чыжом, а „Сьцяпанам Разіным“—адказным за ўцёк комсамольцаў у Савецкую Расію. Але надумаў Сымон інакш: уцякаць—што карысьці, Сьцяпанамі Разінымі трэба рассыпацца па вёсках, узьняць сялянства, біць белых у сьпіну. З гэтымі думкамі і прышоў ён да Міхаські Кухарчыка.

Так і парашылі.

### 3. Прысяга партызана.

Усяго 9 дзён мінула, як Пётра быў назначаны начальнікам атраду. Хадзіў ён за назначэньнем у Капыль, убачыў там валаснога інструктара Віцьку, атрымаў наказ і адправіўся ў сваю вёску організоўваць атрад.

Дзевяць дзён—час не малы. За гэтыя 9 дзён узварушылася ўся вёска Пётры. Моладзь, многія старыя прышлі да Пётры-партызана. Але Пётра памятаў інструкцыю і быў непарушным:

— Кожны партызан павінен мець вінтоўку і сто патронаў. Бяз гэтага не паказвайцеся!

Вінтоўку і сто патронаў? Ёсьць! І кожны партызан прыходзіў з вінтоўкай, з патронамі, прыцягвалі нават і кулямёты: многа зброі захавала вёска, чакаючы прыходу белых.

І за 9 дзён атрад быў зусім гатовым.

А на дзесяты дзень злавілі Пётру за ваколіцай два легіянэры.

— Рэнцы да гуры, большавіку!—і наган ля носа Пётры...

Моцны ўдар па руцэ, ціхі лязг нагана вобземлю і ў тую-ж сэкунду наган у Пётравых моцных руках...

— Крак!—пачуў Міхаська Кухарчык трэск курка, які ўзводзіўся, і сьцягнуў з верхняй губы прыклееныя вусы.

— Супакойся, таварыш! Рэвізія.

Пётра пазнаў у другім „легіянэры“ свайга валаснога інструктара Віцю і апусьціў наган. Ён зразумеў, што яго правяраюць, выпрабоўваюць.

— Праз пяць хвілін выстраіць атрад у поўным узбраеньні!—загадаў Міхаська.

І забегалі мышанятамі па гарах, гумнах, скляпох атраднікі-партызаны, выцягвалі зброю, а праз пяць хвілін Міхаська ўжо абвяшчаў аб тым, што дапускае партызан да прысягі.

Выразным голасам, слова-за-словам прачытаў Міхаська словы прысягі:

**„Я, ніжэйпадпісаны, клянуся гонарам вольнага грамадзяніна, што ведаю аб тэй важнасьці ўзятага на сябе абавязку ад якога залежыць канец нашае барацьбы ў справе вызваленьня пролетарскіх мас, якія пакутуюць у цяжкай няволі, і абавязваюся прайсьці выбраны мною цяжкі шлях.**

**Разумеючы рэволюцыйны абавязак, я гатоў ахвяраваць сябе для дасягненьня мэты вызваленьня і аднаўленьня ў нас Савецкае ўлады, падобна іншым таварышам, якія да мяне дастойна памерлі ў няроўных бойках за гэтую-ж справу.**

**Усялякую ўскладзеную на мяне задачу абавязваюся бясспрэчна выконваць ва ўсякі час дню і ночы. Ніякія страты, перажываньні і жахі ня прымусяць мяне адмовіцца ісьці ўперад і выконваць доручанае.**

**Усё, што ведаю і раблю, і ўсё што выходзіць ад нас,—буду хаваць ад людзей чужых нашай справе, як хаваю свае вока і таварышоў па рабоце; нічога не ўтаю, памятуючы, што толькі гэтым адгародзім працу нашу і нас саміх ад згубы.**

**Абавязак, які ўзяў на сябе, лічу правільным, абавязваюся яго памятаць і выконваць.**

**Невыкананьне чаго-небудзь з данага мною абавязку лічу злачынным, а за здраду яму раблюся ворагам ня толькі таварышом, з якімі працую, але і цалком усёй клясе пролетараў і перад імі адказваю галавой.**

**За здраду справе няхай будзе мне агульная зьнявага і сьмерць!“**

Партызаны слухалі моўчкі.

— Ці прымаеце вы на сябе гэтую прысягу?—запытаў Міхаська, калі скончыў чытаць.

— Прымаем,—адказаў за ўсіх Пётра.

— Хто баіцца—у бок! Міхаська абвёў вачыма ўвесь атрад.

Нікога.

Так з вёскі ў вёску хадзілі кіраўнікі партызаншчыны, правяралі гатоўнасьць сваіх атрадаў.

### 4. Сейце паніку ў радох белых.

А з цэнтру ўжо слалі інструкцыю, перапраўлялі агітацыйную літаратуру. Комсамольская падпольная організацыя разьбілася на дзьве групы. Гарадзкая група разварушвала рабочую моладзь і трымала сувязь з цэнтрам. Вясковая група—Кухарчык, Ян Сімановіч, Пракопчык, Мяцельскі і партыец Антон Сімановіч—стваралі партызаншчыну. Кухарчык зьвязваў абедзьве групы, атрымліваў у горадзе інструкцыі і літаратуру. Атрымаў Міхаська ў горадзе і комсамольскія праклямацыі. Сьпешна раздаў іх інструктаром, загадаў разьнесьці па ўсіх вёсках павету, а сам, вечарамі, калі вельмі хацелася пісаць вершы, чытаў другія вершы, вершы-праклямацыі:

**Рабоча-сялянская моладзь прыгнечанай Беларусі,**

**Слухай!**

*Ужо больш за 10 месяцаў, як на шыі рабочых і сялян Беларусі сядзяць польскія паны.*

*Ужо больш 10 месяцаў, як гэтыя крыважэрныя павукі смокчуць кроў рабочых і сялян. Яны прынесьлі з сабой усе жудасьці царскіх ахранак, корпусу жандараў, шпіёнаў, сышчыкаў, якія пільна сочаць за тым, каб рабочыя і сяляне трымалі сябе „спакойна“, каб яны ня сьмелі протэставаць.*

*Рабоча-сялянская моладзь!*

*Іх лягеры і турмы запоўнены арыштаванымі. Яны б'юць, катуюць, забіваюць, расстрэльваюць, вешаюць тваіх бацькоў і братоў...*

*За што?*

*За адно тое, што яны—рабочыя, за тое, што яны—сяляне і ня хочуць несьці на сабе панскае ярмо, за тое, што яны адважваюцца змагацца з імі*



*Выразным голасам, слова-за-словам, прачытаў Міхаська словы прысягі.*

*і хочуць жыць і будаваць жыцьцё, як самі хочуць.*

*Працоўная моладзь!*

*Ты таксама, як і твае бацькі і браты, прасьледуешся.*

*З цябе зьдзекуюцца, табе ўсё забаронена. Цябе таксама садзяць у турмы, забіваюць, расстрэльваюць.*

*Выйсьце з гэтага адно. Трэба самім узяць уладу ў свае рукі, абвясьціць у сябе Савецкую, рабоча-сялянскую ўладу і самім будаваць сваё жыцьцё. Польскія банды распачалі цяпер новы паход на Савецкую Расію. Яны хочуць надзець на расійскіх рабочых і сялян такое самае ярмо, якое яны раней надзелі на рабочых і сялян Беларусі.*

*Але працоўныя Расіі ня хочуць мець на сабе ярма і паны будуць навучаны...*

*І ў гэты час, калі Чырвоная армія будзе біцца з польскімі бандамі на фронце, ты, рабочы-сялянская моладзь, павінна ёй дапамагчы.*

*Ведай, што чым хутчэй, чым больш ты будзеш дапамагаць Чырвонай арміі, тым хутчэй ты вызвалішся ад ненавіснага табе ярма паноў.*

*Ты павінна дзейнічаць побач са старэйшымі рабочымі і сялянамі.*

*Рабочая моладзь гораду! Твая задача разбурыць тыл белагвардзейцаў. Ты павінна перашкаджаць руху цягнікоў, псаваць масты, дарогі, рваць тэлеграфны дрот, весьці агітацыю сярод польскіх легіянэраў, пашыраць комуністычную літаратуру.*

*Сялянская моладзь! Твой шлях—у чырвоныя партызанскія атрады, якіх ужо шмат на Беларусі. Гэройскімі нападамі ты павінна сеяць паніку ў шэрагах белых.*

*Хай пад моцнымі ўдарамі Чырвонай арміі на фронце, рабочых і сялян разам з працоўнай моладзьдзю ў тыле, спадзе ненавіснае ярмо паноў і зазьзяе новае сонца—сонца для працоўных.*

*Хай грыміць па ўсёй Беларусі:*

*Даволі цярпець!*

*Прэч паноў, памешчыкаў і фабрыкантаў!*

*Прэч уціск і прымус!*

*Хай жыве вызваленьне рабочых і сялян Беларусі!*

*Няхай жыве Савецкая Беларусь!*

**Комуністычны Саюз Моладзі Літвы і Беларусі.**

### 5. Лясы жывуць, у лясох людзі.

Ніколі, нават пры самых вялікіх лясных распрацоўках ня было ў лясох гэтулькі людзей. Цэлымі вёскамі падніམаліся сяляне, ішлі ў лясы, рыхтавалі вялікі ўдар польскім войскам. У лясох разьмясьціліся штабы партызан, у лясох утвараліся склады вайсковай зброі.

І лясы натапырыліся...

Страшна стала езьдзіць міма лясоў белым ваякам арміі Пілсудзкага. Цэлыя групы ўзброеных легіянэраў атакоўваліся, абозы польскай арміі пераходзілі ў рукі партызан. Адзінак—жандараў і афіцэрыкаў зьбівалі з коняй трапныя кулі, пушчаныя з лесу.

З вёскі ў вёску паўзьлі ціхія апавяданьні аб гэраічных учынках партызанскіх атрадаў. У Старадароскай воласьці сабраў комсамолец Перамейчык 200 сялянскіх хлопцаў і ўзброіў іх—каго стрэльбай, каго—калом. Атрад прарваўся да чыгуначнага мосту, спаліў яго, адрэзаў Бабруйск ад Менску і абвясьціў Савецкую ўладу ў чатырох валасьцёх. Мяляшковіцкія хлопцы захапілі вялікі ваенны абоз, забралі ў палон аўтамабіль. Маладзечанскія партызаны разбурылі станцыю Радашковічы, а ў Аляхновічах загналі ў тупік і разьбілі эшалон уланскага палка. Каля Жодзіна партызаны разабралі чыгуначнае палатно...

Паўзьлі ціхія апавяданьні аб гэраічных учынках партызанаў з вёскі ў вёску...

І слуцкія хлопцы рыхтавалі вялікае выступленьне. Іх сабралася ўжо каля тысячы, гэтых бурных жыхароў слуцкіх лясоў. Польская вартаўнічая рота, якая ахоўвала Слуцак, сыгналізавала аб сваёй гатоўнасьці дапамагчы. Хлопцы з падпольнай комсамольскай ячэйкі гэтай роты пераносілі ў партызанскі штаб вінтоўкі, патроны, кулямётныя істужкі.

Многа ўжо перамог у паасобных сутычках мелі слуцкія партызаны. А ў момант, калі Чырвоная армія пачала наступленьне на Кіеў, быў гатовы ўжо



*Афіцэрыкаў зьбівалі з коняй трапныя кулі, пушчаныя з лесу.*

падрабязны плян агульнага партызанскага выступленьня.

Бегае Міхась Кухарчык па вёсках, забягае ў горад для сувязі, робіць вымову няўдалым у працы, хваліць удалых, гарыць агнём партызаншчыны. Колькі бадзёрых, палкіх адозваў склаў ён, колькі соцен лісточкаў сам напісаў для рассылкі па вёсках! І вось дабіўся Міхаська галоўнага—назначаецца паўстаньне цэлага павету. Усё падрыхтавана, усё праверана.

Эх, калі-б вершамі аб усім напісаць! Але Міхаська ня піша вершаў—ён сьпяшаецца на нараду.

**6. Правакатар Бадэль.**

З двух дзесяткаў польскіх слоў, якія пасьпеў вывучыць Міхаська, чытаючы шыльды, асабліва добра ён запамятаў два словы: „дэфэнзыва“ і „пастэрунак“. Гэтыя словы чужое мовы здаваліся вельмі знаёмымі і шматзначнымі. „Дэфэнзыва“—гэта жандармэрыя, „пастэрунак“ № такі-та—яе аддзяленьне ў Слуцку.

Дзень і ноч сачылі комсамольцы за пастэрункам, хаваючыся ў старой бочцы, якая воддаль стаяла. Адсюль, з бочкі, праз шчыліну пазнаёміліся комсамольцы з усімі жандарамі, пазналі ў твар усіх шпіёнаў дэфэнзывы. Але аб адным не даведаліся—аб Бадэлі. Бадэль пралез у ячэйку вартаўнічай роты. Актыўнічаў. Крычаў на падпольных сходах аб сусьветнай рэволюцыі. І гэты-ж Бадэль быў шпіёнам дэфэнзывы.

Калі Міша Кухарчык сьпяшаўся на нараду, Бадэль таксама сьпяшаўся... на кватэру начальніка дэфэнзывы. Калі Міша Кухарчык пасылаў прыходзячых з вёсак на нараду партызанаў у лес, да месца сходу, правакатар Бадэль пасылаў жандараў на падпольную кватэру. Калі Міша Кухарчык распрацоўваў плян разбраеньня салдат чыгуначнай варты, правакатар Бадэль з жандарамі ўварваліся ў пакой...

Дэфэнзыва захапіла галоўных кіраўнікоў: Чыжа, Кухарчыка, Сіманоўскага, Мяцельскага. Але дзе партызаны? Дзе нізавыя інструктары? Іх злавіць не ўдалося. Комсамольцы перахітрылі дэфэнзыву, шырокая нарада інструктароў павінна была адбыцца ў лесе. У горадзе,

на кватэры была толькі „яўка“, сюды прыходзілі па аднаму, каб даведацца аб месцы нарады. І правакатар ведаў толькі „яўку“.

Але дэфэнзыва разаслала карныя атрады па ўсіх валасьцёх. Атрады палілі вёскі, лупцавалі дзяўчат, расстрэльвалі кожнага хлопца, падобнага на партызана... Усе члены ячэйкі вартаўнічай роты былі арыштаваны. У горадзе арыштавалі звыш 100 маладых рабочых, якія ім здаваліся чаму-небудзь ненадзейнымі.

Організацыя была разгромлена. Паўстаньне не ўдалося. Правакатар Бадэль падлічваў сьвежанькія польскія маркі...

### 7. Абвестка палкоўніка Шэмета.

Суд быў просты і борзды. Прывялі арыштаваных партызан, папары закутых у ланцугі, пасадзілі на лаўку.

Судзьдзя пытаецца. Падсудны маўчыць. Судзьдзя ківае тоўстым, тлустым, з залатым пярсьцёнкам, пальцам. Падсуднага выводзяць у суседні пакой. Глухія ўдары чутны скрозь тонкую фанэрную пераборку. Да такіх удараў ужо прызвычаіліся партызаны. Удары-ж—гэта дробязь параўнальна з тым, што было ў дэфэнзыве,—іголкамі пад кепці, абцугамі за пяты, ручкамі наганаў па галаве. Судзьдзя стукае алоўкам па стале. Падсуднага зноў уводзяць у залю і садзяць на лаўку. Цяпер ён таксама маўчыць, ён ня толькі ня хоча, але і ня можа гаварыць.

І ў той-жа дзень зьявіліся ў горадзе абвесткі. Палкоўнік Шэмет абвяшчаў свой прысуд. Цяпер Шэмет прызнаў існаваньне беларусскай мовы, сваю абвестку ён надрукаваў па-беларуску. Праўда, няграматна, але, па яго думцы, беларускі рабочы і селянін зразумее...

Сядзеў палкоўнік Шэмет на мяккай канапе, пяшчотна гладзіў кудлы чарговай палюбоўніцы і з захапленьнем чытаў ёй свой „літаратурны твор“:

„АБВЕСТКА“.

Жаўнеры: Ямавіцкі Пётра, Емельянчык Міхась, Камінскі Аляксандра і прыватныя асобы: Сімановіч Антось, Бічэнка Міхась, Грачук Яўхім, Красуцкі Сьцяпан, Саладуха Пётра, Рэўтовіч Міхась, Тышкевіч Максім, Тышкевіч Міхась, Тышкевіч Мікалай, Сьцепановіч Пётра і Бенько Нічыпар пастановаю палявога суду камандзіра акруговага этапу Менска-Літоўскага, дня 24 красавіка 1920 году, *за здраду і змову супроць войска польскага прысуджаны да кары сьмерці праз расстрэл.*

І гэты прысуд, праз дзьве гадзіны пасьля абвяшчэньня, 25-га красавіка, а 10 гадзіне раніцы, у Слуцку быў выкананы.

Пастановаю гэтага-ж суду за такія-ж учынкі прыгавораны на 10 год катаргі:

Жаўнеры: Гладкі Аляксандра, Красуцкі Пётра і прыватныя асобы: Сімановіч Ян, Мяцельскі Васіль, Чыж Сямён, Кухарчык Міхась, Жураўскі Цімох, Сямідзелаў Александр і Лёсік Мітрафан.

За тое, што ведаў аб гэтай змове і здрадзе і не паведаміў начальства, Кімлач Максім прыгавораны гэтым-жа судом на 4 гады катаргі.

Дварэцкі Якуб і Тышкевіч Сьцяпан за тое, што схавалі карабіны без дазволу ўлады, прыгавораны гэтым-жа судом на 3 гады турмы кожны.

Палкоўнік і камандзір
акруговага этапу
**Шэмет**

### 8. Турма Донкарн у Грудзіёнску.

Палкоўнік Шэмет „падарыў“ Міхасю Кухарчыку жыцьцё. Ён „міласьціва“ замяніў усім няпоўналетнім пакараньне сьмерцю 10-цю гадамі катаргі. 9 падросткаў, якія ўніклі ад сваёй сьмерці, былі адпраўлены ў Пазнань, у г. Грудзіёнск, павольна паміраць у катаржнай турме Донкарн.

Прабылі на катарзе 17 месяцаў, а вырасьлі на 17 год. Ня стала ўжо ранейшага жывога, вясёлага Міхася Кухарчыка. Яго вочкі-мышаняткі перасталі шмыгаць, яны ўсё даўжэй і даўжэй упіваліся ў адзін пункт. Жорстка дзяручы горла, харкаў ён камякамі крыві. Ногі згіналіся са скрыпам, нібы іржавыя жалезныя падважнікі. Але сэрца таксама горача білася. Думка таксама весела працавала. І бадзёрыя, прыгожыя вобразы паранейшаму складалі вершы.

Рэдка ўсе знаходзіліся ў агульнай камеры. Большай часткай многія бывалі

„ў адлучцы“—у цёмным, цьвілым карцары ці ў асобным габінэце, дзе з вялікай заклапочанасьцю была сабрана калекцыя інструмантаў катаваньня. А Сімановіч вышаў з камеры назаўсёды—пасяліўся на турэмных могілках.

Мірны дагавор у Рызе павінен быў прынесьці вызваленьне. Але ня хутка прышло яно, жаданае. Толькі праз 7 месяцаў, пасьля пачатку абмену палоннымі даведаліся савецкія прадстаўнікі, што пакутуюць у турме Донкарн у г. Градзіёнску слаўныя Слуцкія партызаны...



*Большай часткай многія бывалі „ў адлучцы“.*

### 9. Гістмат і „палачкі Коха“.

Вось яна—гэта простая драўляная арка ля станцыі Негарэлае. Простая, але ня простымі словамі зьвернута яна на Захад: **„Камунізм зьмяце ўсе межы“.**

Прайшлі гэтую арку і ўздыхнулі лёгка і вольна. А Міхась уздыхнуў... крывёю. Мучыцельныя сухоты, што разьдзіраюць грудзі і горла, прывёз ён з Польшчы.

Сухоты выклікаюцца „палачкамі Коха“, але сусьветная рэволюцыя выклікаецца ўзрастаючай сьвядомасьцю перадавых рабочых і Міхась махнуў рукой на Коха і яго „палачкі“ і ўзяўся за вучобу. Як у цёплыя празрыстыя воды безьбярэжнага мора, кінуўся ён у палітэканомію, у гістмат, у прыродазнаўства, у гісторыю партыі. У 1922 г. пайшоў Міхась у цэнтральную партшколу Беларусі. Чытаў, спрачаўся на групавых занятках, шпарка, шпарка запісваў словы лектара. І здавалася яму, што гэта ня сухія словы аб філёзофіі Бэрклі, ня простыя лічбовыя даты з эпохі францускай рэволюцыі, а прыгожыя, гучныя вершы... І ціхімі начамі, калі ўсе ў інтэрнаце заснуць, пісаў Міхась свае вершы. Перакладаў на мову вобразаў партызаншчыну і катаваньні ў дэфэнзыве, і турму Донкарн...

Але перамаглі „палачкі“, гэтыя нябачныя для простага вока рухлівыя бактэрыі. Хутка Міхась перастаў спрачацца, ён толькі чытаў і запісваў. Спрачацца ён ужо ня мог: замест слоў сыпаліся з горла хрыплыя гукі і кавалачкі жаўтавата-бурай сьлізі.

— Міхась, друг! Адпачні тыдзень—кінь кнігі. Потым дагоніш,—прасілі Міхася і Сымон Чыж, і Сямідзелаў і Пракопчык, былыя прыяцелі-партызаны, а цяпер таксама, як і ён курсанты партшколы.

А ў цёплы майскі поўдзень адвезьлі Міхася ў бальніцу...

Яшчэ 28-га чэрвеня пацiскалі партшкольцы, што прыходзілі наведваць Міхася, вузкую касьцістую руку.

А дваццаць дзевятага галоўны доктар больніцы перадаў партшкольцам тоўсты сшытак, дробна сьпісаных роўнымі радкамі—гэта былі вершы Мішы Кухарчыка. Вось усё, што прасіў Міхась перадаць на памяць сваім прыяцелям.

Але ён памыліўся, гэты палкі юнак-партызан. Акрамя сваіх вершаў, ён пакінуў на памяць прыяцелям, комсамолу, усёй працоўнай моладзі, гісторыю свайго кароткага, але слаўнага жыцьця, жыцьця байца-рэволюцыянэра...

# Комсамол—на фронт!

*(З успамінаў аднаго з старэйшых комсамольцаў Э. Гэзіна).*

I

Па організацыі вестка прайшла:—„Мобілізацыя на калчакоўскі фронт“. Камітэт організацыі засыпалі пытаньнямі: калі мобілізацыя, каго пашлюць, ці можна ехаць добраахвотна??.

І на заўтра...

У невялікім пакойчыку сабраліся ўсе комсамольцы. Ідуць размовы аб фронце, мобілізацыі.

А за дзьвярыма, у пакойчыку, робіць паседжаньне мобілізацыйная тройка. Абмяркоўваюць, каго паслаць, хто лепей зможа сябе апраўдаць там, на фронце, у бойцы з ворагам. Трэба выбраць тых, хто не адступіць у цяжкі момант. Хто ў патрэбную хвіліну ахвяруе жыцьцём інтарэсам рэволюцыі.

Паседжаньне зацягнулася. Чакаем з нецярплівасьцю. Хочацца хутчэй уведаць, хто тыя, якіх тройка выбаре. Але вось скрыпнулі дзьверы. Выходзіць тройка. Усе кінуліся да яе і абступілі яе. Старшыня тройкі просіць супакоіцца і называе імёны мобілізаваных. Сярод іх дзяўчына—Ісакоўская, адна з актыўнейшых і любімейшых у організацыі. Мобілізацыйныя пераглядваюцца. З вуснаў аднога з іх вырываецца:

— І так едзем!

На хвіліну паўза і погляды ўсіх накіроўваюцца на Ісакоўскую. Узбуджаная радасьцю, нязвычайнай радасьцю, за рэволюцыйны доўг, які выпаў на яе долю, яна коратка заявіла:

— Малайцы, што паслалі мяне! Я-б ня ўтрымалася-б тут...

— Я еду добраахвотна!—нечакана заяўляе комсамолец Ф. Арлоў,—электроманцёр, малады энэргічны хлопец.

— І добра робіш,—адказвае старшыня мобілізацыйнай тройкі, і моцна цісьне яму руку . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Цяжка было расставацца з таварышамі. Гэта-ж былі самыя лепшыя. На вакзале сабралася шмат моладзі; таварышы, знаёмыя і проста зацікаўленыя. На хвілінку здавалася, што ўсе мы едзем, і сапраўды—думкі ўсіх былі там на фронце, дзе вырашаліся посьпехі рэволюцыі. Моцна, па-таварыску, цііснулі едучым рукі. А калі цягнік залязгатаў коламі, яго лязг заглушылі крыкі: „уррра! Бывайце!“ Махалі рукамі і доўга крычалі ўсьлед.

Хутка цягнік схаваўся. Здалёк чуць прыкметна блісkалі аганькі.

Мы разыходзіліся. Але разыходзіліся не з пачуцьцём нейкай страты, а з пачуцьцём глыбокага жаданьня працаваць яшчэ больш . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Хутка мы атрымалі ліст ад таварышоў. Яны былі ўжо на фронце. Ліст пераходзіў з рук у рукі і прачытваўся некалькі раз.

Вось кароценькі зьмест першага ліста.

*„Дарагія таварышы!“*

*Цяпер мы знаходзімся ў 60-ці вярстох ад фронта. Мы ўсе знаходзімся ў адным палку, хоць у розных ротах. Ісакоўскую накіравалі на курсы чырвоных сясьцёр. Мы ўжо ўдзельнічалі ў аднэй бойцы, і нічога—усе жывыя. Настрой бадзёры. Пішэце, як жыве організацыя.*

*Вашы сябры*

(*подпісы*)

* * *

Праз некаторы час мы ўжо лістоў не атрымлівалі. Нашы таварышы загінулі, як і многія другія.

II

Працяжны трывожны гудок сырэны зваў... Беглі шпарка з вінтоўкамі ў руках, без запытаньняў. Гудок сырэны быў умоўным знакам да збору ў асабліва важныя хвіліны. Ня прыйсьці па закліку сырэны, азначала паказаць сваю трусьлівасьць, і такіх гналі з шэрагаў комсамолу, не шкадуючы.

Заклік сырэны ў большай частцы абазначаў выезд на бандытаў, важны сход, або проста—правер ка боя—падрых таванасьці камсамольцаў. А быць гатовымі тады патрэбна было ў кожную хвіліну.

Слова „ЧОН“ для большасьці піонэраў незнаёмае. А ў тыя гады гэта слова гучэла на кожным кроку.



*Прэзыдыум першага зьезду РКСМ.*
**Зьлева направа:** *т. т. Дугачоў, Ахманаў, Сорвін, Шацкі, Бязыменскі, Паноў. Цэйтлін, Рыўкін, Гэрр.*

ЧОН — частка асобага назначэньня, куды ўваходзілі ўсе комуністы і комсамольцы.

Кожны комсамолец лічыўся чырвонаармейцам ЧОН‘а. Ён меў сваю вінтоўку, сталы нумар. ЧОН навучаў вайсковай справе, і зьяўляўся вартаўнічай вайсковай адзінкай. Іншы раз чонаўцы знаходзіліся на вайсковым становішчы. І тады мы ў большасьці знаходзіліся ў казармах. Гэта быў свайго роду фронт у тылу.

Для чаго гэта было патрэбна, шмат каму з вас вядома. У той час бандытызм і контрэволюцыя падымала галаву ўнутры краіны. Гэта было тады не малою небясьпекай. Прыходзілася правесьці спэцыяльныя мобілізацыі на барацьбу з бандытызмам. Наша організацыя таксама правяла мобілізацыю. Сярод мобілізованых быў 16-гадовы комсамолец.

Амаль малыш, ён пашоў з задорным энтузіязмам. За праяўленую адданасьць ён пасьля атрымаў падзяку ад вышэйшых органаў

Пасьля зацішша бандытызму ён прыехаў на некалькі дзён у вотпуск. Сам нізкага росту, амаль малыш, увешаны рэвольверам і гранатаю, ён выклікаў усьмешку ў праходзячых.

Той, хто ня ведаў яго, наўрад ці паверыў-бы яму ў яго баявым здольнасьці. Але той глыбока памыліўся-б. Мне ўспамінаецца адзін з „невялікіх“ яго паходаў, аб якіх ён расказвае:

„Штабу трэба было ўведаць, у якіх вёсках умацаваліся бандыты, колькі іх і г. д. Пайці дарослаunion ў разьведку было небясьпечным. Убачылі-б—ня мінуць кулі. Ды і паселішча, напалоханае бандытамі, адмаўлялася пускаць „чужых“; не хацелі нават размаўляць.

Выхад быў знойдзены.

Сёмку, як яго звалі, пераадзелі ў адзежу бяспрытульнага. Ён ускудлаціў свае валасы, размаляваў твар гразёю. Нізкарослы, чорны, абарваны, ён прадстаўляў з сябе сапраўднага бяспрытульнага.

Сёмку растлумачылі ўсё. Далі параду як быць у выпадку правалу (зброі ня далі!).

І пайшоў Сёмка ў дарогу.

Хадзіў па вёсках, плаксівым голасам выпрашваў кавалак хлеба.

Іншая цётка давала хлеба, і скардзілася, што самым есьці няма чаго, б‘юцца акаянныя, а нам пакутваць прыходзіцца.

А Сёмка дурным прыкідваўся, ды і запытае: хто і дзе б‘ецца...

Вострыя вочы Сёмкі шмат чаго прыкмецілі.

Хутка ён ужо ў штабе выкладваў важныя паведамленьні.

# НАША ГАЗЭТА

№ 4 Насьценная газэта чытачоў „Бел. Піонэра“ № 4

## БЯРЭЦЕ ПРЫКЛАД!

Яшчэ ў мінулым годзе ў нашай сямігодцы організаваўся шумавы аркестр, у якім прымалі ўдзел вучні нашай школы. Спачатку сьмяяліся з гэтага і казалі:

— З чайніка, грабеньчыка, будзе музыка!

Але ўпарта ўзяўся за гэта фізкультурнік т. Якубёнак. Ён сабраў больш ахвотных хлапцоў чалавек 20, расказаў, якія для гэтага патрэбны прылады. Зацікаўленасьць крыху паднялася, і сабраўшы чайнікі, трубу ад самавара, грабеньчыкі, пляшкі, шчоты, звычайную дудку пачалі нашы заняткі.

Цяпер гурток вядзе сваю працу сыстэматычна. Шумавы аркестр так зацікавіў сваёй працай усіх, што ўсе з захапленьнем слухаюць канцэрты музычнага гуртка.

Ні адзін масавы вечар моладзі ў Нардоме не праходзіў бяз выступленьня на ім шумавога аркестру піонэраў.

Зараз на бацькоўскім сходзе высунулі пытаньне аб грашовай дапамозе шумавому аркестру для набыцьця сапраўдных прыладаў як: кларнэт, скрыпку і г. д.

Гэтая праца павінна стаць прыкладам для ўсіх тых атрадаў, у якіх яшчэ гэтага гуртка няма.

(Меншчына, Копыль).

Васілёк.

## ОРГАНІЗАВАЛІ ДАПАМОГУ.

У мінулым годзе пры нашай школе было шмат такіх вучняў, якія не маглі пасьпяваць у вучобе і засталіся на другі год.

Цяпер па ініцыятыве вучкому і піонэраў у нас організавалася некалькі падрыхтоўчых гурткоў, кіраўнікамі якіх зьяўляюцца самі-ж вучні.

Дзякуючы гурткам, якія працуюць усяго толькі месяц, у вучняў нашай школы ёсьць значныя посьпехі.

(1-ая школа, г. Петрыкаў).

Тодар Цалко.

## Дзяткораўская праца сьпіць.

*У нас, у Лядах, ёсьць 4 атрады, пры якіх існуюць дзяткоргурткі. Дзяткоргурткі налічваюць 115 дзяткораў. Але яны нічога ня робяць. Газэт яны не пашыраюць. Я лічу, што гэта адмоўны бок нашай працы. Няма праграмы, паказаньняў, як працаваць. Зусім мала ёсьць літаратуры аб працы дзяткоргурткоў.*

Ад рэдакцыі: Раім скарыстаць для працы дзякораў карысную кніжку Разіна „В поход за знанием“ („Мал. Гвардыя“, цана 1 р.).

Файва Файтлін.

## У культурны паход.

У час культурнага паходу наш атрад дабіўся таго, што ў кожнага піонэра на кватэры была пастаўлена скрынка для сьмяцьця.

Апрача гэтага мы ўзялі і вывесілі каля кожнай студні правілы, як трэба браць ваду, каб не забруджваць студні.

(Аршаншчына, в. Ірвяніца).

## Мы падпісаліся.

**На агульным вучнёўскім сходзе была вынесена пастанова, каб кожная кляса падпісалася на 2-ую пазыку індустрыялізацыі. Гэтую пастанову вучні некаторых клясаў ужо выканалі, як, напрыклад, 7-ая кляса і 6-ая.**

**Так наша 7-годка будзе мець 25 рублёвую аблігацыю.**

ПАЙКІН.



*Як часта піонэры аказваюць адзін другому таварыскую дапамогу ў вучобе і працы.*

## НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ М. І. КАЛІНІНА.

**Улетку гэтага году мы паехалі ў госьці да Міхаіла Іванавіча Калініна. Міхаіл Іванавіч Калінін жыве ў вёсцы „Верхняя тройца“, Цьвярской губэрні, Кімрскага павету. Туды трэба ехаць з Масквы праз усю ноч цягнікам і потым 30 вёрст коньмі па вельмі дрэнны дарозе.**

**Каля самай вёскі „Верхняя тройца“ ёсьць дом адпачынку, дзе мы і спыніліся. Памыўшыся, мы пашлі ў вёску „Верхняя тройца“ да М. І. Калініна.**

**Вёска „Верхняя Тройца“ ляжыць на беразе ракі Мядзьведзіцы, прытоку Волгі. У вёсцы 93 двары. Двор Міхаіла Іванавіча абгароджаны частаколам. Хата т. Калініна пабудавана так, як усе іншыя сялянскія хаты ў гэтай вёсцы. Хаты ў рускай вёсцы большыя і чысьцейшыя, чым у беларускай. Хаты пакрыты дранкай.**

**Гаспадарку вядзе яго старэнькая маці. Сам Міхаіл Іванавіч штогод прыяжджае ў сваю вёску з сваімі сынамі і дачкой на сенакос і жніво.**

**У пакойчыку Калініна стаіць: ложак, столік, табурэтка, крэсла і канапка. Пакойчык сьветлы і вельмі чысты. М. І. Калінін быў вельмі рад гасьцям і, пачаставаўшы нас, павёў паказваць сваю гаспадарку: гумно, хлеў, лазьню, агарод. Мяне вельмі зацікавіў воз, на якім возяць сена: гэта звычайныя калёсы, але драбіна шырэй чым у нас і пастаўлена папярок, а ня ўздоўж. Мы прабылі ў М. І. Калініна два дні. На заўтра пасьля абеду мы сабраліся ад'яжджаць. Коняй перавезьлі праз раку на пароме, а мы пераехалі рэчку на чоўне. Я, Люся і мама селі ў човен, а М. І. Калінін сеў за вёслы. Усе на беразе баяліся, што М. І. Калінін ня справіцца з вёсламі, але ён умела кіраваў чоўнам і перавёз нас на другі бераг.**

**Разьвітаўшыся з М. І., мы селі на павозкі і паехалі на станцыю Кашын. Вечарам мы былі ўжо ў вагоне, а раніцай прыехалі ў Маскву.**

З. ЧАРВЯКОВА.

## АПАВЯДАНЬНЕ ДЗЕДА.

Сёньня, прыблізна а поўдні нейк,
Шмат піонэраў прыходзяць да мяне.
Аб сваіх справах расказваюць
І якісьці лісты мне паказваюць.
Кажуць, дзён тры яны пісалі,
А так як замежнай мовы ня зналі,
То просяць мяне абавязкова
Перавесьці на замежную мову
І адправіць яго загранiцу
У італьянскі горад Ніццу,
Бо, як відаць, было іх апавяданьні—
Гэта для Інтэрнацыянальнага аб'яднаньня.
Просяць так шчыра мяне.
Я сеў ля вакна (каб відней),
Разгортваю пакрышку і чытаю—
Бачу, таму лісту няма канца і краю.
Не магу ўсяго прачытаць ані,
Прыдзецца сядзець два дні.
А не асабліва часу маю,
Таму толькі крышку вам прачытаю:
Добра-ж настаўце вуха,
Там гаворыцца: „Ніцца слухай!“
Сусьветная контр-рэволюцыя—
Капіталісты, фашысты—чакаюць не дачакаюцца,
Калі з такімі днямі спаткаюцца,
Калі ніткі жыцьця нашага парвуцца
І ад Саветаў толькі ўспаміны астануцца.
Заяўляем мы вам катэгарычна,
Што мы, піонэры, гэроічна
На варце інтарэсаў рабочых і сялян стаім
Усіх дзяржаў і ўсіх краін.
Мы будзем змагацца, будзем ваяваць,
Будзем рабочую справу абараняць.
Будзем будаваць соцыялізм,
Зьнішчаць капіталізм.
Загартоўвацца ў змаганьні—
І фашыстам ад нас ня будзе зьмілаваньня.
Італьянскія піонэры! Мы хочам,
Мы хочам бяз меры
З вамі перапіску весьці.
Каб капіталістаў сумесна зьмесьці,
І прыйсьці да лепшага жыцьця,
Неўзабаве мы вам прышлем сьцяг,
Каб і вы ў кожны час
Выконвалі наказы Ільліча.
А Мусаліні перадайце ад піонэраў СССР
Што ён фашыст, контр-рэволюцыянэр.
І што мы яго чучала зрабілі
А потым так яго пабілі,
Растрыбушылі яго шышку
І ад яго не застанецца ні крышкі.
Напішэце, якія парадкі ў гарадох водзяцца,
На лыжах і коньках хлопцы возяцца?“
Самі добра бачыце вы,
Што тут адны пустыя размовы.
Лепей-бы аб тым напісалі,
Як дзень за днём жывяце самі:
Чым займаецеся, што пасьпелі,
Як працуеце, як робіце модэлі,
Як уцягваеце неорганізаваных хлапцоў,
А такіх фактаў—бяз краю і канцоў.
Прылажыце зьнімкі і дыяграмы,
Няхай замежныя сябры пабачаць самі,
Чаго вы дасягнулі, да чаго імкнецеся.
А калі будзеце крычаць, што вы нічога не баіцеся
І наогул сыпаць славамі,
То наўрад ці захочуць трымаць сувязь з вамі.
А ці-ж карысьць прынясе гэта?
Вазьмеце ваш пакет вы,
Што там глупства гаварыць?
Лепш кіньце ў печку і няхай гарыць.
А за граніцу,
Хоць-бы ў горад Ніццу,
Давайце пісаць пра сваю працу,
Няхай і ў іх будзе распаляцца
Да сумеснай працы захапленьне
Па наказам дзядулі Леніна.

Ваш дзед.



# Што ім даў комсамол.

**З бузацёраў—у актывістыя.**

Калі вы разьвіталіся з піонэрам 15-га атраду Сашкам Лютынскім у 1926 годзе, і ад таго часу ня бачыліся з ім, дык вам цяжка будзе пазнаць яго цяпер. Безнадзейны бузацёр, які заўсёды дурэе на сходах атраду, хоча пацешыць іншых хлапцоў, дае шмат клопату павадыру і бацькам сваёй залішняй гарэзьлівасьцю,—вось якім быў Сашка два гады назад.

Цяпер таго Сашкі няма, ёсьць комсамолец Алесь Лютынскі, які канчае сёлета школу ўзвышанага тыпу, г. зн. набывае сярэднюю адукацыю, зьяўляецца правадыром піонэр-атраду, кандыдатам у бюро ячэйкі і, у дадатак, працуе на вытворчасьці вучнем у сьлёсера заводу „Мэталь“.

Перамена для Сашкі проста дзіўная.

Сакратар ячэйкі ЛКСМБ дае аб Алесю водгук, як аб прыкладным дысцыплінаваным комсамольцу, які ня гледзячы на свае 18 гадоў даволі ўважліва адносіцца як да працы на вытворчасьці, гэтак і да сваіх комсамольскіх абавязкаў; пасьпяхова з імі спраўляецца. Пры перавыбарах заўкому маецца на ўвазе высунуць Лютынскага і на агульна-грамадзскую працу—у сябры культкамісіі заводу.

У чым-жа сакрэт такой перамены Сашкі? Хто прымусіў яго пакінуць ранейшае бузацёрства і стаць актывістым Алесем?

— Комсамол! Павінны мы адказаць на гэта пытаньне.—Ячэйка, якая прыняла яго ў свае шэрагі і прышчапіла хлопцу ўсё патрэбнае для сталага жыцьця: уменьне працаваць, спраўляцца з нагрузкаю. Ячэйка-ж, нарэшце, накіравала Алеся на завод у якасьці вучня. Ячэйка даручыла яму самую адказную працу: кіраваць атрадам.

Сам Алесь кажа аб сабе: каб не ячэйка, якая сваячасова прыняла мяне ў свае шэрагі, дала магчымасьць атрымаць комсамольскае выхаваньне,выявіць сябе на працы я-б і да гэтага часу заставаўся ранейшым бузацёрам, ад якога ніхто не чакаў нічога карыснага. Сам не разумею, куды падзеліся ўсе тыя „штукі“, на якія я калісьці быў здольны, усе тыя бузацёрскія выбрыкі, за якія мяне часта лаялі ў атрадзе і школе. Сам на сабе адчуваю, і іншыя гэта кажуць, што другім чалавекам стаў.

**Вайсковыя комсамольцы дапамаглі.**

Гісторыя Юркі Пракудовіча ня шмат чым адрозьніваецца ад апісанай вышэй. Сірата з малых гадоў, які ня памятае сваіх бацькоў, пасьпеў правандраваць па розных гарадох, паезьдзіць у цягнікох зайцам, набыць сабе багаты бяспрытульны і прыгодніцкі стаж,—вось хто ён у мінулым.

Юрка прадае газэты ў Віцебску; Юрка служыць за жабрацкія капейкі дробнаму гандляру, дапамагаючы яму цягаць каламажку з таварам на рынак. Юрка, ня еўшы пару дзён, цягае бульбу на сялянскіх палёх, вядома з „дазволу“ гаспадара і есьць яе сырой; Юрка купляе пару білетаў у цырк, перапрадае іх на пяць капеек даражэй і зарабляе такім чынам на хлеб.

Вельмі доўга трэба было-б апісваць усе прыгоды нашага маладога гэроя, усе крыніцы пры дапамозе якіх ён сумленна ці нясумленна здабываў сабе кавалак хлеба. Што-ж зробіш,—адзінокі хлопец, 15-ці гадоў, ня маючы прытулку, ня можа жыць інакш, яму патрэбна дапамога.

І гэтая дапамога раптоўна зьявілася для Юркі. На Юрку занятага пошукамі бульбы на адным сялянскім полі за Менскам, наткнуліся чырвонаармейцы—комсамольцы 3-га эскадрону 37-га кав. палка, якія былі там на манэўрах летам гэтага году.

— Ты што тут робіш? Пытаюцца ў яго чырвонаармейцы.

Юрка спачатку хацеў уцячы, нават гатоў быў адрачыся сабранае бульбы, але прышлося адмовіцца ад гэтага, бо чырвонаармейцы абступілі яго цесным колам.

Праз пару хвілін яны ўжо добра ведалі Юрку. Але адным „допытам“ яны не абмежаваліся.

— Таварышы—сказаў аторг комсамольскай ячэйкі тав. Б., няўжо мы дамо гэтаму хлопцу і далей так гараваць на

гэтым полі, не дапоможам яму стаць сумленным чалавекам.

— Але-ж — адгукнуліся чырвонаармейцы.

— Узяць яго з сабой,—мы яму дапаможам.

— Чуеш, хлопча? Калі так, ідзі да нас, мы цябе не пакрыўдзім. У нас знойдзецца для цябе лішні кавалак хлеба.

І вось ужо чацьверты месяц, як жыве ў палку разам з комсамольцамі Юрка.

За гэты час ён навучыўся грамаце, ходзіць акуратна адзетым, дапамагае ўва ўсім комсамольскай групе, якая прытуліла яго, выконвае розныя даручэньні, навучыўся ўладаць вінтоўкай, стаў піонэрам падшэфнага эскадрону атраду і да 10-годзьдзя комсамолу, рыхтуецца ў комсамол.

— Ці сумуеш ты аб сваім ранейшым жыцьці?—задаем Юрку пытаньне.

— Сумаваць аб мінулым?—ніколечкі. Хай яно прападзе, маё ранейшае жыцьцё сабакі,—так коратка адказаў Пракудовіч.

Гэтыя словы красамоўна сьведчылі аб тым, што Юрка сабе дапамогу знайшоў, знайшоў і прытулак у таварышоў, якія аб ім клапоцяцца.

І мы ўпэўнены, што з дапамогаю комсамольцаў Юрка выйдзе на лепшы шлях, да лепшага жыцьця, паступова перамагаючы ўсе свае ранейшыя дрэнныя прывычкі (курэньне, лаянку ды інш.).

* * *

Калі мы зацікавімся тэй дапамогай, якую комсамольскія ячэйкі аказваюць не для асобных дзяцей, а для цэлых атрадаў, колектываў, дык убачым, што гэтая дапамога таксама досыць значная. Вось вам некалькі прыкладаў:

Комсамольцы ячэйкі пры саюзе Працмастацтва ў адзін з выхадных дзён наладзілі суботнік з некалькімі сэансамі ў кіно „Чырвоная Зорка“. Увесь збор пашоў на карысьць піонэраў. Трэба адзначыць, што дзякуючы стараньням гэтай ячэйкі, амаль усе піонэры змаглі сёлета пабываць у лягерах.

Набліжаецца зіма,—піонэры ня маюць свайго памяшканьня, ня маюць клюбу. Што-ж робіць ячэйка?—яна абівае парогі шмат якіх устаноў і прымае належныя захады да таго, каб атраду, нарэшце, далі клюб.

Дзякуючы ўвазе, якая аказваецца з боку ячэйкі атрадам пры заводах „Пролетары“ і „Беларусь“, гэтыя атрады здолелі добра разгарнуць працу і яны лічацца цяпер аднымі з лепшых у Гарадзкім районе. Да атрадаў прымацаваны найбольш моцныя комсамольцы, пры дапамозе якіх вельмі пасьпяхова прайшла колектыўная падпіска на заём індустрыялізацыі, „Піонэрскую Праўду“ і іншыя дзіцячыя выданьні.

Ня могуць скардзіцца таксама на недастатковую ўвагу з боку ячэйкі і піонэры атраду ЦСУ. Пры ўдзеле ячэйкі праведзена абсьледваньне хатняга жыцьця піонэраў, комсамольцы дапамаглі добра наладзіць шэфпрацу ў атрадзе, дапамаглі сабраць для падшэфных сялянскіх дзяцей шмат літаратуры і пісьмовых прылад.

*Комсамолец.*





Нарыс з жыцьця самаедаў

**Я. Маўра.**

*Малюнкі* **П. Гуткоўскага.**

— Ты сам самаед!—адкажа вам самаед, калі вы назавіцё яго самаедам.

Імя гэта пашло ад слова „самэеднам“, што азначае „тутэйшы“, жыхар гэтай старонкі. Гэтае слова лёгка перавярнулася на „самаед“ яшчэ таму, што ўмовы жыцьця часта прымушаюць самаеда есьці мяса сырым, а адсюль ужо недалёка да думкі, што яны ядуць і людзей, „саміх сябе“. Такія байкі пашыраліся ня толькі цёмнымі людзьмі, але нават пісаліся раней у друкаваных кніжках. Самі сябе самаеды завуць „хазавамі“.

Самаеды належаць да мангольскага племя (як і фіны, башкіры, кіргізы, і інш.). Таксама ў іх вузкія вочы, шырокі твар, слаба расьце барада і г. д. Калісьці яны жылі значна бліжэй да поўдня, прыблізна каля Байкальскага возера ў Сібіры. Але дужэйшыя суседзі паступова адсоўвалі іх далей і далей на поўнач, покуль яны не апынуліся ў тундрах каля Ледавітага акіяну.

І яны павінны былі прыстасоўваць сваё жыцьцё да гэтай прыроды. Хлеба сеяць таксама нельга; зьвяроў у тундры каб паляваць,—зусім мала: белы мядзьведзь жыве на крыгах у акіяне, а ў тундры дзе-ні-дзе сустракаюцца толькі палярныя лісіцы ды белыя курапаткі. Рыбалоўства магчыма толькі ля берагу акіяна ды на рэках, а рэшта тундры засталася-б зусім бязьлюдная, калі-б тамака ня жылі алені.

Вось гэтыя алені толькі і даюць магчымасьць самаедам існаваць. Алені жывяцца мохам („ягелем“) і пасуцца ўвесь год. Зіма тамака цягнецца 9—10 месяцаў, а алені і ўзімку дастаюць сабе ягель з-пад сьнегу. Самаеды таксама вандруюць са сваімі аленямі, як і ўсе іншыя вандраўнікі (калмыкі, кіргізы).

# Самаеды

Аленявымі скурамі яны пакрываюць свае „чумы“ (шалашы), на аленях езьдзяць, у аленявыя скуры адзяюцца. Пры гэтым, як адзенуць новае адзеньне, дык і носяць бяз зьмены, пакуль яно не распаўзецца. Ня прыходзіцца ім і мыцца. Аленявае мяса і рыба зьяўляюцца іх нязьменнымі стравамі. Калі ўдасца забіць цюленя, дык п'юць яго тлустасьць, пры гэтым могуць выпіць некалькі літраў. Хлеба і солі могуць пакаштаваць толькі тады, калі давядзецца вымяняць у расійцаў. Улетку яшчэ могуць яны паласавацца журавінамі і марошкай (накшталт маліны, але сама расьліна маленькая).



Аднастайнае і нуднае жыцьцё самаеда. На бязьмежным сьнежным полі стаіць некалькі чумаў. Побач пасецца статак аленяў. А навокал, на сотні кілёмэтраў, вока ня ўбачыць нічога. У сярэдзіне зімы надыходзіць палярная ноч, якая цягнецца месяц і болей. Вось на небе, на поўначы, зьявілася нейкае зарыва. Рознакаляровае, прыгожае, яно хістаецца, шырыцца і ахапляе палову неба. А навокал ціша, нідзе ніводнага гуку. Гэта—пазарніца. Праз гадзіны дзьве яна зьнікае, і зноў цягнецца шматтыднёвая ноч.

Вось аленям ужо не хапае корму навокал. Тады самаеды разьбіраюць свой чум, кладуць на „нарты“ (сані) і перасяляюцца далей.

Надыходзіць вясна, чарнее тундра. Прылятаюць птушкі. Тундра ажывае. Замест палярнай зімы надыходзіць палярны дзень, які таксама цягнецца некалькі тыдняў. Радуецца сэрца самаеда. Цяперака ўжо навокал бязьмежнае балота. Але хутка праходзіць 2—3 месяцы, і зноў бясконцая зіма.

Але самаед, як і кожны чалавек, вельмі любіць сваю краіну. Кажуць, што аднаго самаеда завезьлі ў Італію, дзе заўсёды цёпла, дзе вінаград, памеранцы растуць. Пажыў тамака самаед некалькі месяцаў і давай прасіцца:

— Адвязеце мяне ў маю тундру. Тамака лепей.

Самаеды раскінуты на вялізнай прасторы, ад Белага мора да паловы Сібіры, але налічваецца іх усяго каля 16 тысяч чалавек. Часта здараецца хвароба на аленяў; яны гінуць тысячамі, а за імі і самаеды. Савецкая ўлада клапоціцца, каб забясьпечыць іх ад такога няшчасьця. Пасылаецца мэдыцынская дапамога, пасылаецца хлеб і іншыя рэчы, патрэбныя для жыцьця (асабліва паляўнічыя і рыбацкія прылады). Але цяжка гэта зрабіць па неабдымнай тундры, дзе ніякіх шляхоў няма.

Усё-ж такі ў некаторых мясцох арганізованы больш сталыя паселішчы, дзе і сельсавет ёсьць і коопэратыў, і фэльчар і нават школа, чаго ня было ад існаваньня самаедзкага народу.



# Капейкін супроць дрэнных павадыроў.

Я, прызнацца, чалавек памяркоўны. Ня тое, як другі: крычыць вечна, трашчыць, што яму то таго не хапае, то другога. Ад гэтага толькі жывот баліць. Я ня крычу—я злую. Злую доўга, заядла, упарта. Усю горкасьць свайго жыцьця я пераживаю моўчкі, сэрцам, можна сказаць, перажываю.

Мне не падабаюцца павадыры, і праз гэта я злую. Мае-ж таварышы трымаюцца адваротнага погляду—яны праз гэта ня ходзяць на зборы атрадаў і адракаюцца ад іх. А я так не магу. Я гатоў ужо лепш стаць ахвярай дрэнных павадыроў, а ня кідаць атраду. Калі добра разабрацца, дык гэтакай ахвярай я ўжо, ня пры нас казана, стаў: я—калекісты піонэр.

Падумайце толькі, як мог я стаць іншым (лепшым) піонэрам пры тых павадырох, якіх, не шкадуючы, пхала нам штодня ячэйка?

І вось сёньня, у гэты ўрачысты для Комсамолу (а гэта, зразумела, і для нашай ячэйкі) дзень я і хачу толькі далікатна прыпомніць ячэйцы—няхай намотае на свой вус:—даволі мяняць павадыроў штодня. Ці ня можна-б мяняць іх адзін раз, ну, хоць у год?

Калі-ж гэтага ня здарыцца,—злосьць мая на такіх павадыроў ня зьменіцца. Наадварот, я тады ня ручаюся за сябе,—я тады гатоў біцца з павадырамі.

А цяпер, як і ўсе чэсныя людзі, дазвольце вам, дарагія чытачы, зрабіць маленькую справаздачу. Гэта справаздача зусім юбілейная, але гэта не справаздача павадыра аб атрадзе, а наадварот—мая аб павадырох.

**Першы павадыр і першая няўдача.**

За недаўгавечнае яшчэ жыцьцё нашага атраду ячэйка нам не пашкадавала аж 5-х павадыроў. Гэта ідзе пакуль што экспэрымэнтацыя, — выбірай, значыцца, пакуль сам не дабярэцца добры. Але-ж гэта рэдка калі на сьвеце бывае. Прынамсі, з нашым атрадам гэтага ніяк ня можа здарыцца.

Дык вось. Першым павадыром у нас быў *Мікіта Махайла*. Суджаны яму быў толькі 2-тыднёвы атрадны век. Гэта было ўвесну. Атрад наш толькі што організаваўся і, уявеце сабе, на першым-жа зборы адбыўся скандал.

Прыходзіць Махайла на збор, лапоча „трохвёрстную“ прамову—„Уплыў экономікі на політыку“. Мы, піонэры, народ паслухмяны. Ну, што-ж?—гавары сабе, калі маеш ахвоту. Вушы бедныя вытрымаюць. Аднак, каб яно толькі так было—аратар нагаварыў, народ піонэрскі з далікатнасьці праслухаў,—дык яшчэ поўбяды. Але-ж, нябось, павадыр наш з пэдагагічным ухілам. Аб гэтым можна напэўна сказаць, не памыляючыся. Ён трымаецца свайго правіла: для замацаваньня ў памяці слухачоў дакладу, трэба зрабіць паўтарэньне.

Ну, тут ён і разышоўся.

— Сымон,—стукнуў ён пальцам па носе самага найменшага піонэра нашага атраду,—адкажы мне: чым характарызуецца экономічная база нашай рэволюцыйнай эпохі?

Сымонка—піонэр вельмі шчыры. Але ад такога пытаньня ён мог толькі са зьдзіўленьнем вытрашчыць вочы. Хіба пад сілу было Сымонку такое пытаньне?




*...лапоча „трохвёрстную“ прамову...*

Зірк туды, сюды,—усе маўчаць, ніхто і губамі не зашавеліць. На падказ спадзявацца няма чаго...

— Ну, каму я кажу,—напірае Махайла.— Ня ведаеш? А каму-ж я гаварыў цэлыя 2 гадзіны. Баран ты бязмозглы. Устаць, калі разгаварваеш.

Ня вытрымаў бедны Сымонка і тут-жа расплыўся ў горкіх сьлязах. З тае пары і дагэтуль ніяк не ўцягнуць яго ў атрад. Так ўжо далося ў знакі яму гэта пытаньне і павадыр...

Добра вылаяўшыся на Сымонку, Махайла пачаў тыкаць пальцамі на кожнага папарадку. І, што-б вы думалі, ніхто не адказаў.

Страшэнны гнеў засьвяціўся ў вачох павадыра.

— Я вас паўкакошваю,—крычыць ён.

Усе аж млеюць. Ува ўсіх думка адна: Хаця-б як хутчэй вырабіцца з гэтага збору, а там і дзесятаму закажам-не хадзіць у атрад. Калі кончыўся збор, Махайла падаў грамавую каманду.

— Сьмір-і-ір-р-на-а-а-а!!!

Нібы гэта полк салдат быў перад Махайлам.

Пачалася гімнастыка. Цалюткую гадзіну ганяў ён нас: направа, налева-кругом, шаг на месцы, стайкай, зьмейкай, бягом... Духі выматаў.

Сымонка, бедны, ужо на першай поўгадзіне здаўся, расплакаўся і ўцёк, мы-ж парашылі гараваць, як і гаравалі нашы старэйшыя таварыны за вялікую справу рэволюцыі.

Пот цурком ліўся з нас, млявасьць сьціскала рукі, але мы бегалі: „разьвівалі маладыя косьці“, як казаў павадыр. Ох, гэтыя косьці! І цяпер баляць пры адным толькі ўспаміне. У мяне ад таго і страшэнная злосьць на фізкультуру. Я і зьненавідзеў яе, гэтую Махайлаўскую фізкультуру. Тры дні ня мог потым павярнуцца.

Мучыла боль у мускулах ног, жывата...

Кончылі сяк-так фізкультуру. Павадыр дазволіў перадыхнуць, закурыць, каму млосна, і распусьціў дамоў.

Больш мы ў атрад пры ім не сабраліся. А калі мінула некалькі тыдняў і атрад не сабраўся, аб гэтым даведалася ячэйка. Павадыр у нас ужо быў другі.

**Новы збор і новая няўдача.**

Яблыкі і ўся садавіна яшчэ і ня думалі сьпець. Толькі што людзі ўсеяліся, канчалі яшчэ дзе-ні-дзе сеяць грэчку.

Павадыр у нас быў, як вы ведаеце, новы—*Мікола Вяртун* па празваньню. Славіўся ён на ўсім мястэчку тым, што быў першай гільдыі майстрам па беспатэнтнаму збору садавіны. Вы, напэўна, здагадваецеся, што гэта за спэцыяльнасьць, аб гэтым вельмі добра ведаюць усе местачкоўцы, у якіх ёсьць сады. Яны нават не пярэчаць часта Вяртуну



*Михайла падаў грамавую каманду.*

ў яго рабоце: самі яму насыпаюць у шапку ігруш,—бяры, брацішка, толькі меру ведай, ня крыўдзь лішне, бо што з ім зробіш? Папрабуй задрацца, увесь сад аголіць і ня ўбачыш, хоць ты вартуй яго дзень і ноч.

Сёлета Мікола Вяртун нешта яшчэ з вясны не паладзіў з адным самым злосным местачкоўцам Вінцуком Сальнікам. Кажуць, што сварка адбылася з-за ката. Мікола Вяртун вельмі ня любіў Вінцуковага чорнага старога ката за лішнюю памаўзьлівасьць: вельмі-ж унадзіўся ў сьвіран Вяртуноў цягацца. І вот аднойчы на сваім адзіночным паседжаньні Вяртун ясна і строга вырашыў:— „Сьмерць Вінцуковаму кату“. Для гэтага Вяртун сканапаціў вялізную пастку і паставіў ля свайго сьвіронка. Кот быў злоўлены і расплясканы пасткаю на сьмерць. Цяпер праз гэтае Вінцук ня мае вока на Вяртуна, а Вяртун—на Вінцука. І Вяртун цьвёрда парашыў правучыць і Вінцука, як правучыў яго ката.

Толькі-ж Вінцук ня кот, яго ў пастку ня зловіш. Але ў Вінцука быў сад...

Калі толькі сабраўся наш першы сход пры новым павадыры (а сход быў чамусьці прызначаны ўвечары), Вяртун зрабіў наступнае: адабраў дзесятак лепшых хлопцаў і сказаў ім астацца, рэшту атраду распусьціў, паведаміўшы:

— З прычыны таго, што ячэйкаю яшчэ не зацьверджаны тэзісы, па якіх ён павінен зрабіць прамову,—збор атраду ні ў якім разе адбыцца ня можа.

У ліку абраных апынуўся і я. Нам была прачытана цэлая сакрэтная інструкцыя, як абчысьціць Вінцукоў сад.

Каб падахвоціць нас для гэтай садовай сакрэтнай справы, Вяртун упэўніў усіх, што ў Вінцука ёсьць шмат салодкіх яблынь і што яблыкі ўжо зусім можна есьці. Яны ўжо вялікія вырасьлі і наліліся сокам.

Пасьля ўсяго гэтага, цёмным вечарам рушылі мы ў сад. Спачатку трохі аглядаліся, выставілі варту па вуглох саду ад Вінцука. Потым захапіліся сваёй справай так, што нават бузаваць і сьвістаць пачалі. Весела.

Аж неўзабаве здарылася вось што. Наш сьвіст і крык пачуў Вінцук. Раптам у адным канцы саду завойкаў Мішка, ды так завойкаў, што па голасу адчулі мы нешта страшнае. Усьлед за гэтым закрычаў Вяртун: „Ратуйцеся, хлопцы!“

Адным словам—лазьня... Калі паніка ўціхамірылася, мы падлічылі баяздольнасьць сваёй арміі. Выявілася, што Мішы ўсе-ж такі з намі ня было. Значыцца, ён папаў у рукі ворага—Вінцука.

Не пашанцавала гэтае кампаніі. Даведалася пра гэта ячэйка і—прыпісаны павадыру „строгі“ са зьняцьцем з працы ў атрадзе.

**Гісторыя з мастацкімі панчохамі.**

Нарэшце, павадыром прызначылі нам **Марусю.** „Ну, падумалі мы сабе, цяпер зажывём“. І з палягчэньнем уздыхнулі пасьля такіх цяжкіх прыгод з ранейшымі павадырамі.

Маруся—дзяўчына з густам. Уся праца атраду, па яе думцы, павінна мець мастацкую афарбоўку. „Няма там правільнага выхаваньня новага чалавека, дзе няма мастацтва“. Маруся больш усяго любіла дзяўчат.

Гэта адзіны і нязьменны лёзунг Марусі, якога яна прытрымліваецца ў выхаваньні маладога пакаленьня наогул. З гэтай мэтай атрад за кароткі час аброс самымі рознавыгляднымі мастацтвамі. Былі ўтвораны: гурток вышываньня, гурток дэклямацыі лірычных вершаў уласнай творчасьці Марусі, гурток па вязаньню мастацкіх панчох і рукавіц. І больш нічога. Пакуль што больш ніякага мастацтва для Марусі не існавала. Пры тым, і нам, хлопцам, абавязкова трэба было займацца ў гэтых гуртках, значыцца, вучыцца вышываць і вязаць панчохі.

Каб вы ведалі толькі, якая гэта была катаржная праца ў гэтых гуртках. Мы нема крычалі аб вызваленьні пасьля першых-жа няўдалых вопытаў. Але кожнае выступленьне супроць строга каралася Марусяй. Яна з усёй сваёй мастацкай сілай накідвалася на нездаволенага і лаяла яго па ўсіх правілах вобразнае тэхнікі, толькі з некаторым жаночым адценьнем.



*Маруся больш усяго любіла дзяўчат.*

Цярпім. Дзе-ж дзенешся? Цярпелі-б мо' і дагэтуль. Ды на шчасьце, дзякуй яму, сэкратар ячэйкі неяк выпадкова на збор наш заглянуў. (Гэта першы раз за ўвесь час). Мы давай яму скардзіцца:

„Так і так, ня можам успрыняць Марусінага мастацтва, простыя мы вельмі да гэтага людзі, і поэзію мы паважаем ня больш за якое-небудзь радыё ці сталярства“... Сяк-так, з плачом папалам, уламалі сэкратара. Маруся была заменена „сталярскім“ комсамольцам Дубовым. Вот дзе ужо ўзрадаваліся мы. Нарэшце, дастукаліся свайго.

**Маленькая няпрыемнасьць.**

Не пасьпелі мы як сьлед выпрастацца, каб разварушыць атрад, як на табе!— зноў няшчасьце. Надышла восень і наш любімы ўсімі павадыр Дубовы заяўляе нам:

— Я, дарагія, з вамі павінен папрашчацца. Ні мажу я далей кіраваць піонэрскім рухам па ўважыцельнай прычыне: як я ёсьць шосты гадок, дык я іду ў нашу гіраічаскую чырвоную армею...

Апусьцілі насы піонэры. Як ня плачуць некаторыя: шкада добрага павадыра.

**Мусіць доля такая наша.**

Цяпер у нас арудуе ўсім піонэрскім рухам у атрадзе Цяпкін. Самы, праўда, гэройскі павадыр. Пра яго вы, мабыць, добра ведаеце. Ён ужо сьвяціў вачыма з старонак нашай часопісі перад чытачамі за свае штучкі самахвальскія. Ці варта больш пісаць пра тое, які ён павадыр?

Зноў пачаліся будні ў атрадзе. Мусіць, зноў пачнецца гісторыя спачатку: выпрабаваньне павадыроў...

А пра гэта цяжка нават думаць.

Вот чаму я ня люблю павадыроў і гатоў злаваць датуль, пакуль зноў ня вылучыць ячэйка другога Дубовага. Можа яна, ячэйка, успомніць пра гэта хоць у дзень 10-годзьдзя.

◆◆◆◆◆

# САВА, АСЕЛ ДЫ СОНЦА.

(Байка).

*Сава лятала па начы,*
*З сабою птушкам сьмерць насіла.*
*Хаўтурны сьпеў ім пяючы,—*
*Сама там драла іх, сама-ж і галасіла,*
*Ды так ня ўбачыла, як нахапіўся дзень,*
*І сонца яркага прамень*
*Дарэшты асьляпіў ёй вочы.*
*Сава ўцячы тут хоча,*
*Ды толькі вось ляцець ня можа,*
*А блізка тут няма дупла нідзе.*
*Заплакала сава ў бядзе,—*
*Ну хто-ж саве паможа?*
*На шчасьце, ёй тут лёс паслаў*
*Знаёмага асла.*
*І кажа ён: „Ня плач, сястрыца,*
*Ды надта не бядуй,—*
*З бяды мы вырабімся самі,*
*І сонцу нам ня прыдзецца скарыцца:*
*Я вушы доўгія на сонца навяду*
*Ды засланю яго вушамі.*
*Як цемра ўсю пакрые галу,*
*Як згіне прыкрае сьвятло,*
*Дык ты й ляці сабе ў дупло*
*Тады памалу“.*
*І наш асёл за працу ўзяўся шчыра:*
*Як можна вушы свае шырай*
*Ён растапырыў, распрастаў*
*І проці сонца стаў.*
*Калі-ж налева глянуў коса,—*
*Сьвятла там яркая палоса.*
*Ён—гоп! у левы бок.*
*Пасьля глядзіць—сьвятло і справа,*
*Тады назад ён—скок!*
*Нарэшце бачыць—дрэнна справа:*
*Скакаў, скакаў і ўжо насілу ходзіць,*
*А сонцу ўсё ніяк ня шкодзіць,*
*Ні каплі не памог саве.*
*А вочы пасьляпіў сабе.*
*І вось аслу тады тут ясна стала:*
*Каб сонца засланіць—вушэй асьліных мала.*

Крапіва.




## ЛІСТЫ-ПЯКУЧКІ ВОЖЫКА-КАЛЮЧКІ.

Добры дзень, сябры! Я ўжо вам гаварыў, што за жыцьцём вашым сачу, дык вось і цяпер я хачу пагаварыць з вамі „па душам“ пра тое, што назіраў у апошні час сам. Я па ўсёй Беларусі хаджу і ўва ўсе бакі гляджу. Люблю за жыцьцём малых наглядаць, а за гэтым хачу вам наступнае перадаць...

Адзін раз, у часе сваіх прагулак, зайшоў я ў адзін местачковы завулак. Зайшоў і гляджу: каля плоту сабралася шмат людзей. А хто там, я ня прыгледзеўся добра здалёк, зацікавіўся і туды ў галёп.

Калі-ж я туды падышоў, то ўбачыў цэлую кучу малышоў. Кудысьці глядзяць, хвалююцца, нават няпрыемныя словы чуюцца. Дай і я пабачу сваімі вачамі. Падышоў бліжай—аж у глыбокай яме, быццам сталыя, і на'т не на жарты, гуляюць хлопцы ў карты, а астатняя гурба наглядае, хто выйграе, а хто прайграе. Каб вы бачылі іх твары: колькі там злосьці, колькі жару! другі за грошы хватаецца рукамі, і перакідваюцца такімі славамі, што хоць вазьмі і заткні вушы,—ня хлопцы, а атручаныя душы. І мне так крыўдна стала, што я чуць не памкнуўся міліцыянэра пазваць, каб агідную капэлю разагнаць. Стаў я гэта шукаць міліцыянэра, раптам бачу шыльду: „Клюб атраду піонэраў“.



Тут павінна быць зусім ня так, піонэрскі клюб блізка так, а побач дзеці чорт знае чым займаюцца і агідна гэтак лаюцца... І парашыў я, няйначай, што робіцца ў клюбе—пабачыць... Зайшоў і адразу зьмяніўся настрой—вельмі ўжо спадабаўся мне клюб той. Усьміхаюцца са сьцен малюнкі неяк ветла, усюды чыста, прытульна, сьветла... Раптам прыбеглі ў клюб якіясь хлапчукі,—што гэта за госьць нечаканы такі. Кожны тут дагадацца можа, што я сказаў, што я гэта той самы Вожык, які любіць з непарадкамі змагацца, што часта назіраюцца ў нашай працы. Хлопцы ўраз мяне прывіталі, кругом мяне ўсе пасталі, пачалі аб працы сваёй расказваць і розныя дасягненьні паказваць: як яны за дзьве нядзелі збудавалі ажно 3 мадэлі, як яны кнігі апраўляюць, як разам пяюць, гуляюць, як фізкультураю займаюцца, як растуць, разьвіваюцца.

І сказаў я ім: „добра ў вас усё, але дрэнна адно—вось паглядзеце ў вакно, чым там неарганізаваныя займаюцца, як яны агідна лаюцца, а вы іх сваёю працаю і не абхаплялі; трэба-ж, каб і яны не прапалі, трэба і іх у атрад уцягнуць пастарацца—вось тады яшчэ лепшая будзе праца. І калі вы ад іх будзеце ўцякаць, то сапраўднымі піонэрамі ня зможаце стаць. Гэта ваша абавязковая мэта. Зразумела, вы малайцы і за гэта, што мадэлі збудавалі, што сваё здароўе ўзмацнялі. Але толькі тады піонэры сваёй мэты даб'юцца, калі ў нас карты перавядуцца, цыгаркі горкія, піва, віно, „горкая“. Вось тады яшчэ лепш ацаню вашу працу я, калі з гэтым дружна будзеце змагацца вы, і, як добрых працаўнікоў, пахвалю—нават пахвальны ліст прышлю.

Ваш **Вожык.**

## Міхасёва будучае.

Міхась абавязкова будзе пісьменьнікам. Гэта вырашана. А быць пісьменьнікам, напэўна, вельмі цікава. Скажам, напісаў пісьменьнік якую-небудзь рэч—і ўсе яе чытаюць, хваляць: „Вось,—кажуць людзі,—пачытайце, вельмі цікава!..“ Або ідзе пісьменьнік па вуліцы, а ўсе на яго паказваюць. „Паглядзеце—пісьменьнік ідзе. Гэта, каторы кнігі піша!“ Вельмі прыемна! А пісаць зусім ня цяжка. Сеў і напісаў. Романы сапраўднае глупства. Толькі паперы і атраманту шмат пойдзе. Але нічога, потым, як надрукуюць—адкупіцца. А вось вершы; крыху трудней. Тут і рыфма і ямбы ўсякія патрэбны. Але і вершы лёгка пісаць. Узяў некалькі слоў з аднолькавымі канчаткамі, прыпісаў пачатак.

Вось прыклад: Шура, Дурань, Мура.

А прыпісаць можна так:

„Наша Шура,
Сапраўды дурань,
Таксама і Мура“.

Хоць ямбаў і няма, але ўсё-ж такі ніштавата выходзіць.

Яшчэ сягоньня хадзіў Міхась у піонэратрад купляць селядцы. А прыкашчык рыбу ў біографію нейкага пісьменьніка загарнуў. Ну, Міхась па дарозе дамоў і прачытаў біографію гэтага пісьменьніка: прачытаў і даведаўся, што гэты пісьменьнік дрэнна ў школе вучыўся. О! Міхась і цяпер не асабліва вучыцца, а заўтра ён выкіне ўсе кніжкі, парве сшыткі. Ён заткне за пояс усіх пісьменьнікаў! Словам, ён будзе нацыянальным пісьменьнікам!




## Два адказы.

**Клічуць Пётру на заняткі,**
**А Пятрусь дык чымсь заняты,**
**І ў адказ бяз лішніх слоў:**
**— На заняткі? Не гатоў!**
**Толькі хвілі Пётра лічыць,**
**Покі хатнія паклічуць**
**На абед. Бяз лішных слоў**
**Крыкне ён: „Заўжды гатоў!“**



## І гэта піонэры?

— Ну, сябры! Хаця хвіліну
Падтрымайце дысцыпліну,
Так ня варта нікуды,
Станавіся у рады!
Так крычыць важак атрадны.
Быццам сход сабраў парадны.
Піонэры-ж, хто куды,
І крычаць на ўсе лады.

* * *

Клюб тут асірочаны,
Павадыр-жа вочамі
Ува ўсе куткі
Паглядае ласа так,
Сумам апаясаны,
Як жабрак які.
(Слабы быў натураю!).
Клюб для фізкультурнікаў
Апусьцеў зусім...
Выглядае квола так...
Хлапчукі-ж вясёлыя,—
Што фізвых тут ім!

* * *

Паглядзі праз вокны ты:
Лезуць хлопцы на платы,
Паўзьбіраліся на дах...
Піонэры?—ярунда!
Бо яны ні на хвіліну
Ня трымаюць дысцыпліну.

# Матыль і кветка

Эх, ты жоўценькі матыль,
Матыль лёгка-крылы,
Бястурботна ты жывеш
Да самай магілы.
Добра ты жывеш, матыль,
Ня ведаеш гора:
Ты лятаеш угары—
У блакітным моры.
Ты лятаеш па лугу,
Па траве шаўковай,
Дзе ніколі ня ступаў
Быстры конь падковай.
А калі захочаш піць—
Паляціш у рэчку;
А напіўшыся, сядзіш
У густых парэчках.

Ты слухаеш мерны шум
Рэчкі срэбраводнай,
Што цячэ, нібы крышталь,
Мые бераг родны.
А маё жыцьцё—журба,
Нібы я бяз долі,
Сяджу дзеўбам з году ў год
У шырокім полі.
Летам, у гарачы дзень,
Плачу ад сьпякоты,
Абвяне мой бодры ліст,
На сэрцы турботы.
З неба сонейка пячэ.
Выпіла-б выдзіцы,
Але бяз ног не дайсьці
Да жывой крыніцы.



Слухай, кветачка-душа,
Хоць і сіплы мой язык,
Але скажу, што пірог
У чужых руках вялікіх.
Ты зайздросьціш мне ўжыцьці,
Але усё-ж дарэмна...
Нават гутарку тваю
Слухаць няпрыемна.
Ці-ж я жыву бяз турбот!
Страх мне сэрца муліць:
Я баюся, як агню,
Шэрае зязюлі.
І яшчэ баюся я
Ластаўкі-чарнухі,
Ад іх нельга уцячы,
Шпаркія іх рухі.
Ну, а покуль што—бывай!
Бывай, мая кветка,
Палячу я ў цёмны гай
Праз лугі й палеткі.



**Сафроненка К.**

# Аб усім патроху.

*(Працяг).*

### Урок асьцярогі.

У вялікіх гарадох, дзе вельмі вялікі вулічны рух трамваяў, аўтомобіляў, аўтобусаў, мотоцыклаў і іншага, вельмі лёгка можа наляцець на чалавека аўтобус альбо мотоцыкл.

Большасьць няшчасных выпадкаў бывае з дзецьмі. Яны менш уважлівыя і



зусім неасьцярожныя. Дзеля гэтага ў школах уведзены асобныя ўрокі „як хадзіць па вуліцы".

Вось на гэтай фотографіі вучні аднэй школы сталіцы Нямеччыны—Бэрліну вывучаюць рух на вуліцах свайго раёну. На стале стаіць мадэль вуліцы, і настаўніца паказвае, як хадзіць па вуліцы, як яе пераходзіць, як працуе сэмафор, які кіруе вулічным рухам, дзе знаходзіцца бальніца і г. д. Такія ўрокі прывучаюць дзяцей да асьцярожнасьці.

### Горад, які гарыць каля 45 год.

У Амэрыцы, у штаце Огіо знаходзіцца г. Стратсьвіл, які абкружан тысячай маленькіх вульканчыкаў; яны ўтвараюць навакол каменнае поле і не даюць магчымасьці жыць прыгожым вёскам. Калі падняцца на адзін з такіх кратараў, можна ўбачыць на дне вулькану высокія языкі агню.

Жыхары гэтай мясцовасьці прызвычаіліся ўжо да небясьпекі і спакойна будуюць сабе хаты на зямлі, пад якой бушуе агонь. З 1884 году далучылася новая крыніца агню, створаная ўжо людзкімі рукамі.

У Огіо ў 1884 годзе выбухла вялікая забастоўка шахцёраў, і яны падпалілі шахту „Плёмбэр". Спачатку гарэў толькі адзін пласт вугалю, але гэтага тады не заўважылі.

Толькі, калі было зьнішчана 50 юграў каменна-вугольнага пласту, забілі трывогу, але агонь ужо ня мог быць зьліквідаваным.

Затушыць агонь і дагэтуль немагчыма. На гэта кідаліся вялікія сродкі, але вынікі ўсё былі адмоўныя.

За гэтыя амаль 45 гадоў згарэла 70 мільярдаў тон вугалю.

---

## Карысныя парады.

### Плаваючы магнэс.

Трэба ўзяць вязальную сьпіцу і добра яе намагнэзіць. Пасьля надзець на яе корак так, каб над ёю чуць тарчаў паўночны полюс іголкі. Іголку трэба пусьціць плаваць у пасудзіну з вадой. Калі няма шкляной, можна ўзяць любую пасудзіну, акрамя жалезнай. Да аднае з сьценак пасудзіны з нутранога боку, вышэй вады, трэба прымацаваць магнэсавую палачку.

Тады намагнічаная йголка пачне паступова перасоўвацца ў вадзе па сілавых лініях: такім чынам, можна вельмі добра наглядаць гэтыя лініі.

### Як пракруціць шкло.

Невялікую дзірку дыямэтрам да 0,5 снм. можна выкруціць добра загартованым сьвярдзёлкам альбо чыстым канцом (ручкай) трохкутнага напільніка. Канец напільніка трэба завастрыць на тачыльным камені.

Трэба, каб сьвярдзёлак быў увесь час змочаны скіпідарам, які мяшаецца з гаваю.



Друкарня „БДВ". Зак № 723. У ліку 1900. Галоўлітбел № 344.